№ 9 (151). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 5.V.1939.




# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŚLACH MOŁADZI
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 9 (151). Вільня, 5 Мая 1939 г. Год XI.




# РАМЯСЛО І ПРОМЫСЕЛ НАШАГА КРАЮ

Каб шукаць пачаткаў рамясла й промыслу, дык трэба было-б хіба сягаць некалькі тысяч год назад, г. зн. да часу такога разьвіцьця чалавека, калі ён пачаў выяўляць патрэбы ў сваім жыцьці мець побач ежы сякуютакую адзежу, абутак, прыладзьдзе для земляробства, паляваньня, рыбалоўства і г. д. Але мы так далёка сягаць ня будзем. Сьцьвердзім перад усім факт, што ёсьць у нашым краю дзесяткі тысячы краўцоў, шаўцоў, сталяроў, кавалёў, цесьляў, бондараў, ганчароў і іншых майстроў з фармальнымі кваліфікацыямі, г. зн. з «рамесьніцкімі картамі», згуртаваных па местах і мястэчках, ды ня менш мо' такіхжа майстроў вясковых бяз ніякіх дакумэнтаў, але часта з вялікімі здольнасьцямі, каторыя пашыраюць г. зв. народны промысел і заспакойваюць у вялікай меры патрэбы вёскі. Рамесьнікі — гэта людзі, я сказаў-бы, з спэцыяльнымі здольнасьцямі й ведай, а калі ходзіць аб вёску, дык зьяўляюцца яны, быццам, нейкай крыху вышэйшай катэгорыі, бывалыя ў людзях, маючыя кантакты, лепшыя матарыяльныя варункі і г.д. Дзеля таго рамясло мае вялікае значэньне ня толькі ў сэнсе эканамічным, але й нацыянальным.

Рамесьнікі зьяўляюцца, свайго роду, піонерамі промыслу. Рамесьніцтва-ж і промысел мясцовага паходжаньня вельмі аблягчаюць палажэньне вёскі. — Яны забіраюць з вёскі надмерны лік працоўных рук на загоне, заспакойваючы-ж першыя патрэбы сялян—атрыманыя ад іх грошы вяртаюць ім назад за спажывецкія прадукты. Такім чынам паўстае рух, абмен пладамі вытворчасьці, гандаль, а заработак не ўцякае ў чужыя краі. А калі хоць частка вытворчасьці промыслу, рамесьнікаў і земляробаў ідзе заграніцу й калі менш тавараў прывозіцца з заграніцы, як вывозіцца, тады край багацее й доля ягонага паляпшаецца. У гэтым праяўляецца найвялікшы сэнс патрэбы падтрыманьня й як найбольшага пашырэньня мясцовага беларускага рамясла й промыслу, якія дасюль у нас ня мелі належнае апекі.

За часоў расейскае нямолі палітыка царскіх урадаў была так кіраваная, каб тварыць прамысловыя цэнтры ў Расеі, ня глядзячы на тое, ці там былі для гэтай прамысловасьці дагодныя абставіны, сырцы, ці не. Хадзіла ім аб тое, каб узбагачваць «истинно русскія» землі коштам паняволеных народаў. Ня гледзячы на такую няспрыяючую палітыку да сусьветнае вайны, у 6 беларускіх губэрнях было 11.822 фабрыкаў і заводаў, у каторых працавала 81,635 работнікаў. Прадукавалі яны тавараў на 107,250,000 рублёў. Значная часьць гэных тавараў ішла заграніцу.

Як прадстаўляецца промысел у Беларускай Радавай Сацыялістычнай Рэспубліцы, цяжка дасьледзіць. Ёсьць там, бязумоўна, поступ, але й камуністы ня надта стараюцца палепшыць эканамічнае палажэньне й разбудаваць промысел у Беларусі.

У Польскім Гаспадарстве, на г. зв. усходніх землях, дзе жывуць Беларусы, промысел ня мае належнае апекі. Наадварот, як падае „Sprawozdanie o stanie gospodarczym okręgu Izby Przemysłowo-Handlowej w Wilnie za 1937 г.“, «устанаўленьне далёка больш прыцягваючых палёгкаў для СОР (Цэнтральнага Вокругу Прамысловага ў цэнтры Польшчы — Я. Н.) і Гдыні з'ваколіцамі ня спрыяла прамысловай інвэстыцыі на Землях Паўночна Усходніх. На перашкодзе акцыі інвэстыцыі стаяў — кажа далей тая-ж справаздача — недахоп адпаведных крэдытаў, а так-жа канечнасьць перамаганьня многіх цяжараў паўстаючых з недатасаванага нараз да патрэбаў жыцьця зьверхняга кіраўніцтва ў галінах, у каторых мусіць праяўляцца гаспадарчая актыўнасьць. Апошняе зацікаўленьне ўрадавых дзейнікаў мала што памагло... Ня гледзячы на ўсё гэта колькасьць прамысловых варштатаў паважна ўзрасла, дзякуючы саматужнасьці мясцовых элемэнтаў...»

Трэба пры тым ведаць, што прысутнасьць розных сырцоў (дрэва, лён, жывёла, збожа і інш.), сыстэма водных шляхоў, багацтва торфу, белага вугля, таніня работніка вельмі спрыяе разбудове промыслу ў нашым краю. Нашыя вазёры, рэчкі з вялікімі спадамі й роўнамернасьцю прыплыву вады, як кажа б. віцэ-прэзыдэнт м. Вільні, інж. Г. Енш у „Roczniku Ziem Wschodnich za 1939 г.“, даюць магчымасьць выпрадукаваць вялізарную колькасьць электрычнае энэргіі пры вельмі нізкіх коштах. А гэта пры цяперашняй мэханізацыі мае вялікае значэньне. Агулам інж. Енш дапускае, што воды аднае Віленшчыны, бяз спэцыяльных штучных вадазборнікаў, могуць даць 450 мільёнаў кіляват-гадзін. Палепшаньне эканамічнага палажэньня нашага краю бачыць ён у стварэньні промыслу ў большых разьмерах.

Тымчасам у вокругу Прамыслова-Гандлёвае Палаты ў Вільні, якія абыймае ваяводзтвы: Віленскае, Наваградзкае, Бела-

стоцкае й Палескае, прамысловых прадпрыемстваў ёсьць 11,533 і належаць яны, на жаль, да людзей найчасьцей наплывовых. Промыслам і рамяслом займаецца ў гэтым вокрузе 4 працэнты насельніцтва, лік каторага сягае больш 5 мільёнаў.

Найбольш разьвітым зьяўляецца промысел вытворча-спажывецкі, каторага маем 4791 прадпрыемстваў. У гэтым ліку: млыны, малачарні, фабрыкі віна, мёду, кансэрваў, макарону, муштарды, цукеркаў, дражджоўні і інш., а таксама бровары, якіх ёсьць 98. Прад вайной на тым самым бадай абшары было каля 300 бровараў, што ёсьць вельмі характэрным для нашага землеробскага краю й цяперашніх адносінаў. Прад вайной сьпірт ад нас вывозілі, а цяпер прывозяць з цэнтру Польшчы й Пазнаншчыны, з чаго карыстаюць тамашнія земляробы, маючы лепшы збыт на збожа.

Другім найбольш ведамым зьяўляецца дзераўляны, ці як іншыя кажуць, лясны промысел. Усіх дзераўляных прадпрыемстваў, паводле „Spraw. Iz. P.-H. w Wilni za 1937 г.", ёсьць 1279. У гэтым тартакоў 226, а рэшта фабрыкі фарнеры, мэбляў, запалчаных палачак і інш. дзер. вырабаў. — Далей паперняў, тэктуроўняў і пад. прадпрыемстваў ёсьць 90. Капальняў крэйды 36. Шкляных гутаў, цагельняў, цэмэнтоўняў, бэтонярняў, кафлярняў, вапнярняў — 860. Тэкстыльных, валакністых фабрыкаў (ткальняў і інш.) — 1128. Алеярняў 191. Смалярняў і тэмпэртынярняў 291. Мыдлярняў 44. Фабрыкаў галентарыйна-адзежных 118. Фабрыкаў скурных 71. Фабрыкаў сьвечак, лякеру, пакосту, фарбаў — 35. Апрача таго ёсьць шмат прадпрыемстваў рыбацкіх, гародніцкіх, садоўніцкіх і іншых.

Усіх прамысловых прадпрыемстваў хоць у агульных нарысах у публіцыстычным артыкуле цяжка вылічыць. Важнае аднак для нас тут сьцьверджаньне, што пачаткі промыслу ёсьць, што ёсьць так-жа натуральныя дагоднасьці й патрэбы для яго разьвіцьця. Астаецца толькі пытаньне: якім спосабам падтрымаць і разьвіваць мясцовы промысел і беларускае рамесьніцтва. І гэтым пытаньнем займаліся беларускія віленскія часапісы. Канкрэтныя рады іх былі наступныя: 1. закладаць беларускія рамесьніцкія школы, тварыць рамесьніцкія арганізацыі, банкі, наладжваць збыт рамесьніцкіх вырабаў заграніцу. 2. Пашыраць прыватны гандаль і коопэрацыю. 3. Тварыць бел. рамесьніцкія цэнтры па местах і мястэчках, ды прыцягваць, як рамесьнікаў так і работнікаў да беларускага адраджэнскага руху, бо зьяўляюцца яны элемэнтам вельмі актыўным і важным для нацыянальнае справы.

Увесь гэты плян правільны й вельмі добры. Але рэальна гледзячы на жыцьцё, мусім сабе усьведаміць, што хоць рамесьніцкія беларускія школы, арганізацыі, банкі вельмі патрэбныя й трэба ймкнуцца да таго, каб яны паўставалі, аднак у сяньняшніх абставінах мы, Беларусы, з прычын ад сябе незалежных ня зможам іх стварыць. Рэальную акцыю за гэта можна й трэба вясьці ў самаўрадах. Прад усім-жа мусім прапагаваць сярод сялянства, асабліва сярод моладзі, патрэбу пашырэньня свайго промыслу, навукі рамясла, фаху, старацца падтрымліваць сваіх мясцовых бел. рамесьнікаў, каторыя павінны браць у тэрмін перад усім мясцовую сьведамую беларускую моладзь; тварыць рамесьніцкія вытворчыя каапэратывы, а таксама прыватныя прадпрыемствы; дамагацца ад ураду крэдытаў і палёгкаў для разьвіцьця мясцовага рамясла й промыслу; урэшце наладжваць збыт вырабаў і прадуктаў з нашага краю заграніцу, які мае аграмаднае значэньне й якога ёсьць ужо паважныя пачаткі.

Я. Н.

# 1 Maj—Śviata Pracy

Sioleta minuła 50 hod ad pryniaćcia na mižnarodnaj kanferencyi ŭ Paryžy pastanovy ab śviatkavańni rabotnikami 1 Maja.

Śviata heta dajšlo ŭžo j da našaha kraju j u niekatorych miascoch nia tolki rabotniki, ale j sialanie pačynajuc jaho śviatkavać. Treba adnak skazać što ciapier 1 Maju dajuć roznaje značeńnie. Adny ŭvažajuć jaho za śviata kamunistyčnaje, druhija za sacyjalistyčnaje, trejcija za nacyjanał-sacyjalistyčnaje, a inšyja nazyvajuć jšče jn-kš. Dziela taho nie adrečy budzie zahlanuć u historyju j pierakanacca, u jakich abstavinach i dziela čaho paŭstała dumka śviatkavać 1 Maj.

Było heta ŭ 1889 hodzie, kali adbyvałasia słaŭnaja ŭsiaśvietnaja vystaŭka ŭ Paryžy. U henym časie, dakładna 20 lipnia, adbyvaŭsia ŭ Francyi mižnarodny sacyjalistyčny kanhres (druhi internacyjanał), na jakim miž mnohimi inšymi spravami amerykanski delehat padaŭ prapazyku ŭstanavić mižnarodnaje śviata, hałoŭnym kličam katoraha było-b skaračeńnie dnia pracy. Usie ŭčaśniki dumku hetu pryniali, tolki byli raźbiežnaści što da vybaru daty — dnia. Tady amerykanski pradstaŭnik vyjaśniŭ, što pracoŭnyja Ameryki paštanavili 1 Maja 1889 h. naładzić vialikuju demanstracyju. Francuski delehat Raymond Lavigne, prypomniŭ, što imienna ŭ mai miesiacy 1889 h. sacyjalisty ŭ Bordeaux vysunuli ŭładam damahańni praletaryjatu. U kancy-ž pryniata była pastanova, u jakoj miž inšym havorycca:

„Ustanaŭlajecca data vialikaje mižnarodnaje manifestacyi, kab u adzin toj samy dzień, uva ŭsich krajoch i miestach rabotniki mahli damahacca ad uładaŭ skaračeńnia dnia pracy da vaśmi hadzin.

Biaručy pad uvahu, što manifestacyja hetkaha rodu była ŭžo vyznačana na dzień 1 maja 1890 h. Amerykanskaj Federacyjaj Pracy na kanhresie ŭ Saint Louis u 1888h., dziela taho pryjmajecca hety dzień, jak data dla ŭstanoŭlenaj manifestacyi".

Ustanoŭlenaje takim čynam śviata 1 Maja stałasia paśla dniom damahańniaŭ nia tolki skaračeńnia dnia pracy, ale svabody, roŭnaści j braterstva, dniom baraćby za poŭnuju hramadzkuju spraviadlivaść, za pravy čałavieka da pracy j dla kulturnaha žyćcia.

Suśvietnaja vajna mocna padarvała aŭtorytet śviata 1 Maja, asabliva-ž klič braterstva, kali rabotniki pajšli na aružnuju baraćbu adzin suproć druhoha ŭ varožych da siabie armijach. Adnak sam klič svabody, roŭnaści j braterstva astaŭsia dalej vialikim. Paśla suśvietnaje vajny, nia hledziačy na ŭsio, dumka śviatkavańnia 1 Maja pašyryłasia jašče bolš. I siańnia śviatkujuć jaho nia tolki sacyjalisty, ale j kamunisty j navat nacyjanał-sacyjalisty, a taksama j rabotniki, katoryja nie naležać da nijakich partyjaŭ. U časie śviatkavańniaŭ dachodzić časta da kryvavych sutyčak. Bo z adnaje starany pracoŭnyja vysoŭvajuć svaje damahańni lepšaje doli, spraviadlivaści, svabody, a z druhoje starany buržui vystupajuć suproć hetaha, arhanizujučy roznyja dyversyjnyja napady na śviatkujučych.

Treba ŭreščie skazać, što charaktar śviata 1 Maja pakrysie źmianiajecca. Stajecca jano ŭžo nia

tolki dniom damahańniaŭ rabotnickich, ale j śviatam u češć Pracy, dniom kultu Pracy. Dzieicca heta z pryčyny źmieny pahladaŭ na Pracu. Dasiul mazol, pracu fizyčnuju ludzi ŭ bolšaści ŭvažali za niešta panižajučaje. Ciapier taki pahlad spatykajecca radziej. Praca fizyčnaja stanovicca ŭžo byccam niejkaj hanarovaj adznakaj. Da stvareńnia takoha pahladu, treba spraviadliva adciemić, pryčyniajucca nia tolki sacyjalisty, demakraty, ale taksama sapraŭdnyja chryścijanie, a navat fašysty j nacyjanał-sacyjalisty. U chryścijanskaj navucy češć dla Pracy, pašana jaje źjaŭlajecca adnym z najbolš važnych punktaŭ, katory časta silnyja hetaha śvietu j prysłužniki kapitalistaŭ zakryvajuć, abo vyjaśniajuć na svaju karyść. Fašysty, nac.-sacyjalisty, navat sami asabista ichnija pavadyry — Musolini j Hitler, — nia raz vyjaŭlali pašanu Pracy.

Pryjmajučy pad uvahu ŭsio vyšej skazanaje, chto viedaje, ci ŭžo ŭ niedalokaj budučyni dzień 1 Maja nia staniecca ahulnym usienarodnym śviatam u češć Pracy.

Biełarusam, na naš pahlad, kult Pracy, pašanu da Pracy, treba raźvivać bolš, čymsia kamu inšamu, bo ŭvieś Biełaruski Narod — heta ludzi pracy. Biełarusam, biazumoŭna treba ŭ pieršuju čarhu trymacca ŭsiaho svajho nacyjanalna biełaruskaha, usim tvaryć adnu biełaruskuju siamju, jimknucca da taho, kab nichto ŭ nas nia byŭ pakryŭdžany, ani, specyjalna, dziela svajho bahactva vyvyžšany, upryviljavany. Adnačasna, Biełarusam nia možna padtrymlivać źviarynaha nacyjanalizmu, katoraha hałoŭnym kličam jość — silniejšy musić źjeści słabiejšaha, a ŭ mieru siły padtrymlivać imknieńni da brackaha spraviadlivaha, svabodnaha, niezaležnaha sužyćcia ŭsich narodaŭ.

J. N.

# Gibrałtar

Dva tydni tamu vočy ŭsiaho śvietu źviarnulisia na Gibrałtar, dzie pačali hurtavacca vajennyja siły hišpanskija, italjanskija, anhlijskija, francuskija j niamieckija. Što ž heta takoje heny Gibrałtar, zapytaje mo' nie adzin z našych čytačoŭ?

Voś-ža:

Gibrałtar jość małym skalnym paŭvostravam na paŭdzionnym bierahu Hišpanii. Adciaty jon ad całaści abšaru Hišpanii mocna ŭlezšym zalivam Algeciras. Paŭvostraŭ hety maje 4 z pałavinaju kilametraŭ daŭžyni z poŭnačy na poŭdzień i kala 1 z čvierciu kilametraŭ šyryni z uschodu na zachad, a paŭdzionnaja častka jaho, nazvanaja Punta de Europa, h. zn. kančatak Eŭropy, jakaja znachodzicca na vyšyni 425 metraŭ nad moram, spadaje stroma ŭ niz i źjaŭlajecca nia tolki miescam najbolšaha zbliżeńnia Eŭropy z Afrykaj, ale adnačasna punktam, katory, možna skazać, panuje nad Gibrałtarskaj ciaśninioj, łučačaj Mižziemnaje Mora z Atlantyckim akijanam. Ciaśninia-ž hena z uvachodu Mižziemnamorskaha maje šyryniu 20 klm., u samaj siaredzinie zvužajecca da 13 klm., a ŭ vychadzie na Atlantycki akijan rasšyrajecca da 37 klm.

Miesca heta pryciahvała ŭvahu jašče ŭ staradaŭnych časoch. Za jaho bilisia Hišpancy, Rymlanie, Araby, Francuzy j Anhlijcy, bo źjaŭlajecca jano, byccam, bramaj u marskoj kamunikacyi. Sam nazoŭ Gibrałtaru pachodzić ad pavadyra Arabaŭ Tarika, katoryja zajmali Gibrałtar ad 711 da 1462 h. Paarabsku skała nazyvajecca gebel (džebel), u spałučeńni-ž z imiem Tarik paŭstaŭ nazoŭ Gebel-Tarik (skała Tarika), katoraja paśla pieratvaryłasia ŭ Gibrałtar.

Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Slachu Moładzi“ — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.

Памятуйма, што свая беларуская інтэлігенцыя найлепш дбае аб дабро для свайго Беларускага Народу!

Ad Arabaŭ adabrali Gibrałtar Hišpancy ŭ 1462 h. Urešcie-ž, u časie hišpanskaje vajny ŭ 1704 h. zaniali Gibrałtar Anhlijcy, jakija pa siańniašni dzień trymajuć jaho ŭ svaich rukach.

Anhlijcy zrabili z Gibrałtaru vializarnuju krepaść, u jakoj zhurtavanyja anhlijskija vajennyja siły ściarahuć svabodnaha prajezdu dla svaje floty. Da apošnich hadoŭ suproć anhlijskaha uładarstva ŭ Gibrałtary vialikich vystupleńniaŭ badaj što nia było. Ciapier adnak, kali Niamieččyna j Italija bližej zacikavilisia Hišpanijaj i jaje bierahami, Gibrałtar znajšoŭsia ŭ pałažeńni zahrožanym. Asabliva hroznym dla Gibrałtaru staŭsia, takim čynam, hišpanski port Ceuta, katory znachodzicca badaj naprociŭ na bierahoch Afryki pry Mižziemnym Mory j Gibrałtarskaj ciaśninie. Z hetaje-ž pryčyny pavialičyłasia značeńnie partovaha miesta Afryki pry Atlantyckim akijanie Tangieru, jakoje taksama znachodzicca niedaloka Gibrałtarskaj ciaśnini. Tangierem kirujuć pavodle ŭmovy z 1923 h. čatyroch Francuzaŭ, čatyroch Hišpancaŭ, troch Anhlijcaŭ i troch Italijancaŭ. Najbolšyja adnak upłyvy majuć tam Francuzy, da čaho pryčyniajecca bliskaje susiedztva francuskaje kalonii ŭ Afrycy Marokko, u abšar jakoha farmalna zaličany Tangier, a taksama j dziela taho, što Francuzy najbolš majuć sympatyi siarod tamašnich žycharoŭ, dy što kirujuć žandarmeryjaj, jakaja ściaraže paradku.

U ciapierašnim tryvožnym časie baraćby vosiaŭ Rym-Berlin i Paryž-Londyn Gibrałtar uvažajuć za adzin z najbolš balučych punktaŭ. Tamašniaja anhlijskaja krepaść i kantrola najbolš nie padabajecca Niamieččynie j Italii, bo na vypadak vajny Anhlija moža začynić prajezd praz Gibrałtar niamieckaj flocie j takim paradkam Italija nia budzie mieć pomačy na Mižziemnym Mory, a hetym samym pieramoha tut addajecca zhary Francyi j Anhlii. Dyk niadziva tady, što Gibrałtar pryciahvaje vialikija vajennyja siły j uvahu ŭsiaho śvietu.

Z. B.



Gibrałtar.

# Будоўля зямлі

Зямля наша належыць да г. зв. сонечнай сыстэмы Сонца-ж, як ведаем, стаіць на месцы, а Зямля кружыцца кругом сонца па дарозе выцягнутага кола. За год Зямля робіць поўную дарогу кругом сонца з вялізарнаю скарасьцю. Зямля ляціць у бязьмежным прасторы, пралятаючы ў сэкунду дарогу даўжынёю 30 кілямэтраў. Гэта значыць, што скорасьць гэта перавышае скорасьць вінтовачнае кулі ў 50 разоў.

Зямля наша ёсьць шаравідная, мае форму сплюснутага на полюсах шара. Адначасна з рухам кругом сонца, Зямля круціцца таксама кругом выабражанай сваей восі й за суткі яна робіць поўны абарот кругом гэнае восі.

Зьмена пораў году: вясна, лета, восень, зіма — гэта ўсё ёсьць вынік руху Зямлі кругом сонца й інш. дзейнікаў. Дзеньжа й ноч зьяўляюцца вынікам абароту Зямлі кругом сваей восі.

Зямля наша ёсьць вельмі старая. Вучоныя ўважаюць, што мае яна шмат трыльёнаў*) гадоў.

Думаю, што зродзіцца пытаньне ў Паважаных Чытачоў: чаму Зямля ёсьць шаравідная, якім чынам яна паўстала, чаму кружыцца кругом сонца, а не па якой другой дарозе й г. д. Аб усіх гэтых справах пастараюся падаць хоць агульныя паняцьці, якія будуць вельмі патрэбныя й аблегчаць прысваеньне ўсіх тых пытаньняў, каторыя адносяцца да ўнутраной будоўлі Зямлі, аб якой буду пісаць ніжэй.

## Розныя пагляды аб нутраным стане Зямлі

Пытаньне аб будоўлі Зямлі яшчэ да сяньня ў цэласьці ня выясьненае. Шмат ужо вучоныя зрабілі захадаў у гэтым кірунку й даўно ўжо цікавіліся гэтымі пытаньнямі, аднак яшчэ да сяньня ёсьць шмат праблемаў з гэнае галіны не цалком высьветленых. Але з таго, што высьветлена, ведама, што ў нутры Зямлі ёсьць вялікае цісьненьне**) й пануе высокая тэмпэратура. У нутры, Зямля знаходзіцца ў зусім іншым стане, зусім не падобным да таго стану, у якім яна знаходзіцца на сваей паверхні.

Таму, што вучочыя людзі ня маюць яшчэ магчымасьці стварыць такіх варункаў, якія пануюць у нутры Зямлі, нават у лябараторыйнай абстаноўцы, дык ясна, што ўсе паняцьці аб стане нутра Зямлі зьяўляюцца да пэўнай меры дагадкамі.

Усе шматлікія пагляды аб нутраной будоўлі можна падзяліць на наступныя групы:

I. Зямля збудаваная із вобласьцяў, прадстаўляючых паступовы пераход ад цьвёрдай кары праз рад пераходных зон да газавага ядра — „тэорыя закрытычнага газа“.

II. Зямля прадстаўляе сабой рэдкую, расплаўленую матэрыю, пакрытую цьвёрдай карой, таўшчыня каторай у розных вучоных прыймаецца розна.

III. Зямля ёсьць цьвёрдай матэрыяй ўва ўсей сваей таўшчыні, зьяўляючыся зусім астыўшай масай.

IV. Зямельны шар ёсьць цьвёрдым, але ў розных мясцох яго знаходзяцца адасобленыя басэйны расплаўленых жыдкіх масаў.

V. Зямля складаецца з цьвёрдага, прудкага ядра, із цьвёрдай зямельнай кары. Між гэтымі вобласьцямі заключана магматычная*) маса ў відзе пераходнага пояса.

Некаторыя з гэтых паглядаў сягоньня ўжо ўстарэлыя, а некаторыя не цалком пакрываюцца са шматлікімі назіраньнямі, зробленымі за апошнія часы й таму даўжэй затрымлівацца над імі ня буду.

Цяпер у большасьці вучоных пануе пагляд аб цьвёрдым і пруткім стане зямнога ядра. Да гэтага пагляду скланяецца цяпер большасьць геалёгаў, геафізыкаў, геахімікаў, а таксама астраномаў. У глыбіні Зямлі, як я ўжо зазначыў вышэй, пануе вялізарнае цісьненьне. І вось гэтае аграмаднае цісьненьне, якога мы нават ня можам выабразіць у нашых звычайных абставінах, уварунковываюць цьвярдзіню й згушчанасьць субстанцыі ў нутраных часьцях Зямлі. І таму тэрміны аб стане целаў „цьвёрды“, „плыўкі,“ „газавы“ ня могуць тасавацца да тых станаў цела, у якіх знаходзіцца яно ў глыбіні Зямлі. Гэтыя тэрміны могуць мець недаслоўны, а ўмоўны характар. З пэўнасьцю можам дапусьціць, што субстанцыя знаходзіцца ў нутры Зямлі ў стане, яшчэ ня знанай на паверхні Зямлі.

## Цяперашнія дадзеныя аб будоўлі Зямлі

На падставе навуковых дадзеных, зямны шар можа быць падзелены на тры часьці:

1) Вонкавая вобласьць Зямлі, даходзячая да глыбіны 1200 клм.

2) Сярэдні, пераходны пояс, каторы складаецца із кісароднасульфіднай (хімічнае спалучэньне серкі (sulfur) з другімі элемэнтамі) вобласьці цяжкіх мэталяў і даходзіць да глыбіні 2900 клм.

3) Ядро зямлі — барысфэра (цяжкая сфэра), зложаная із найболей цяжкіх субстанцыяў, імення: жалеза й нікелю. Радыюс гэтай вобласьці налічае сярэдне 3500 клм. Уважаюць, што цісьненьне ў гэных вобласьцях выражаецца 3,000,000 атмасфэраў. Адносна тэмпэратуры, пытаньне астаецца адкрытым.

Самымі верхнімі часьцямі нашай Зямлі ёсьць літасфэра. Таўшчыня яе каля 50 клм., а пераход яе ў чарговы слой адбываецца плаўна й пасьлядоўна, у парадку расьцягненага інтэрвалу. Пераход-жа апошняга да ядра зьяўляецца рэзкім скокам (пункт 2900 клм.).

Варта зазначыць, што пэрыфэрычныя (берагавыя) часьці Зямлі адрожніваюцца ад нутраного ядра ня толькі фізычна, але хімічна.

У сувязі з гэтым, самую верхнюю часьць Зямлі, каторая складаецца галоўна із крэмня (Si) і алюміню (Al), азначаюць сымбалям-знакам „Sial“. Болей глыбокія часьці называюцца „Sima“, таму, што ў складзе яе пануючую роль іграе магні (Mg). Для пераходнай зоны даны назоў: Crofesima — для верхняй часьці (хром— Cr, жалеза—Fe, крэмень—Si, магні — Mg) і Nifesima — для ніжняй вобласьці (нікель — Ni, жалеза—Fe, крэмень— Si, магні — Mg). Ядро зямлі абазначаюць сымбалям „Nife“ (нікель—Ni, жалеза—Fe), як складаючаяся ў большасьці з гэтых мэталяў.

Каб больш выразьней прадставіць сабе вышэй сказанае аб нутраной будове Зямлі, падаю

---

*) Мільён — тысяча тысячаў, мільярд — тысяча мільёнаў, трыльён — тысяча мільярдаў. Трыльён гадоў — гэта такі доўгі час, якога нам, лічачых век на сто гадоў, трудна выабразіць.

**) Цісьненьне 1 атмасфэры выражаецца цяжарам паветра на кожны квадратны цэнтымэтр паверхні Зямлі, вышыня якога выносіць 200 клм. Цяжар гэтага слупка паветра на кожны 1 кв. цм. выносіць 1 клг. і 33 гр.

*) Магмай называецца расплаўленая маса, якая знаходзіцца ў нутраных часьцях зямной кары. Слова „магма“ паходзіць ад грэцкага „мігвумі“, што значыць „мяшаць“, пасьлядоўна —слова магма азначае сабою зьмешаную масу.

адначасна табліцу Зіберга (Sieberg A., Erdbebenkunde, Iena 1923), прынятую большасьцю вучочых, каторая зьяўляецца асновай сягоньняшніх паглядаў у гэтай галіне веды.

### Табліца вобласьцяў і зон зямнога шара п-дле Зіберга
(Sieberg A., Erdbebenkunde, Iena 1923)

| Назовы вобласьцяў і зон Зямлі | | | Глыбіня ў клм. | Стан агрэгатны | Сярэдняя гушчыня | Агульны характар |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Літасфэра | Зямная кара | Sial | 50—60 | Анізатропны-крысталічны | 2,6 | Крысталічныя пароды, каторыя складаюцца пераважна з Крэмня Si, Алюміню Al, Граніту, Гнэйсы і п. Бліжэй ніжняй граніцы пароды пераходзяць у адкрытапластычны стан. Знаходзяцца гнёзды мёртвай магмы. |
| | Цякучая зона | Sima | 120 | | 3,0 | Крысталічныя пароды, каторыя маюць у сабе пераважна Крэмень Si, Магні Mg, знаходзяцца ў стане скрытай пластычнасьці. Могуць быць гнёзды дзейнай магмы злучаныя між сабой, а таксама з вышэй ляжачымі. |
| | Зона цяжкіх магматычных парод | | 1200 | Аморфны-шклісты | 3,4 | Цяжкія магматычныя пароды сіматычнага характару. не спатыканыя на зямной паверхні. У верхніх слаёх могуць яшчэ знаходзіцца ў стане скрытай пластычнасьці. Няма ні гнёздаў, ні слаёў дзейнай магмы |
| Пераходны пояс | Кісларoдна-сульфідная* вобласьць цяжкіх мэталяў | Nifesima-Crofesima | 2900 | Ізатропны | 5,5-6,0 | Мэталічнае жалеза з сылікатамі**) ў няправільным напластаваньні канцэнтрычнымі слаямі з рознаякімі фізычнымі ўласьцівасьцямі. Практычны стан „цьвёрды". |
| Барысфэра | Жалезнае ядро | Nife | 6370 | | 9,1 | Жалеза з прымешкай нікелю Ni і часткова Кобольта Co. Практычны стан „цьвёрды". |

*) Сульфіды — хімічны зьвязак серкі з другімі хімічнымі элемэнтамі. Адсюль: селеніды — селеністыя злучэньні, тэльлюрыды — тэльлюрыстныя злучэньні, арсэніды — мыш'яковыя злучэньні й антымоніды — сурмяністыя злучэньні.

**) Сылікатамі называецца хімічны зьвязак крэмнязёма з другімы хімічнымі элемэнтамі. З гэтакіх зьвязкаў складаецца большасьць мінэралаў зямной кары.

Гэтая табліца прадстаўляе папярэчны разрэз зямнога шара ад цэнтру аж да яе паверхні. З табліцы мы бачым, што зямельная кара складаецца з найрадзейшай матэрыі й чым бліжэй да цэнтру, тым больш павялічваецца гушчыня матэрыі. Урэшце цэнтр ядра Зямлі, або, як інача яшчэ яго называюць, барысфэра, мае найгусьцейшую субстанцыю.

Паўстае тады пытаньне, якімжа чынам матэрыя зямнога шара так улажылася?

Вось-жа вучоныя высьвятляюць, што разьмяшчэньне масаў у зямным шары можна параўняць з разьмяшчэньнем целаў, якія паўстаюць у выніку стапленьня жалезнай руды ў гутнічай печы: на сподзе зьбіраецца чыстае жалеза, над ім крыху лягчэйшыя сярчкі*) ад жалеза, а на паверхні знаходзіцца лёгкая глінакрэмневая шляка, падобная да скалаў зямной кары. Падобна сталася й з разьмяшчэньнем масаў у зямным шары. Некалі пры паўстаньні Зямлі наступіла сэгрэгацыя**) складаючых яе целаў; улажыліся яны паводле гушчыні.

Калісь ня было ані нашай Зямлі, ані тых плянэтаў (Мэркуры, Вэнэра, Марс, Юпітэр, Сатурн, Уран і Нэптун), якія, як і Зямля, належаць да сонечнай сыстэмы. Быў толькі аграмадны шар вельмі рэдкай мглавіцовай матэрыі. Пад уплывам адцэнтравай сілы ад віруючага шару мглавіцы адрываліся вялізарныя яе масы, з якіх паўставалі плянэты сонечнай сыстэмы, а ў тым ліку й нашая Зямля. З рэшты часьці мглавіцы, згушчанай і зжатай, утварылася нашае сонца. Зямля, паводле гэтай тэорыі, была калісь шарам субстанцыі мглавічнай, каторая пад уплывам згушчэньня паступова разгравалася. З газавага стану наш зямны шар перайшоў у стан плыўкі й тады адбылася сэгрэгацыя матэрыі паводле яе гушчыні: у сярэдзіне сабраліся цяжкія элемэнты, розныя мэталі, а перад усім жалеза, з якога складаецца ядро Зямлі. Навокал ядра ўтварыўся слой зьвязкаў цяжкіх мэталяў з серкай,—як уважаюць адны, пераважна з кіслародам,—як думаюць другія; гэта ёсьць слой пераходны. Яшчэ лягчэйшыя зьвязкі крэмня (Si), алюміню (Al), кальцыю (Ca), магні (Mg), потасу (K), соды (Na), утварылі каменную пакрыву Зямлі, а на паверхні, творачы яе кару, сабраліся найлягчэйшыя алюміна - крэмневыя „шумавіны".

Вышэй пададзеная тэорыя паўстаньня Зямлі паходзіць з XVIII веку. Першы яе сфармуляваў Кант, а разьвіў Ляпляс. Навейшыя часы прынясьлі толькі дробныя папраўкі. Да апошніх часоў апіраліся на ёй выабражэньні аб нутраным стане Зямлі й аб паходжаньні знаходзячайся у ёй энэргіі, перад усім цяплінёвай.

—о—

Спатыкаючыся з сялянамі, прыходзілася часта чуць пытаньні: што знаходзіцца ў глыбінных часьцях Зямлі? Апіраючыся на навуковыя дадзеныя апошніх часоў, я даў тут адказ, прадстаўляючы вельмі агульніковы абраз нутраной будоўлі Зямлі. Далей, карыстаючы з гасьцінных шпальтаў паважанай рэдакцыі „Шляху Моладзі" я буду старацца пісаць аб вельмі цікавых зьявішчах, як паўстаньне сушаў і мораў, аб працэсах гаратворчых, аб прычынах землятрасеньня, аб зьвішчах атмасфэрычных і г. п. Задаваленьне ж цікавасьці паважаных чытачоў будзе найбольшым маім маральным задаваленьнем і заплатай.

*К. Чэртовіч*

*) Сярчкі—гэта ёсьць хімічны зьвязак серкі з мэталямі.

**) Сэгрэгацыя—разьмяшчэньне.

## Найбліжэйшыя заданьні

З жмені лістоўных водклікаў нашых пачынаючых літаратаў-маладнякоўцаў у адказ на маю зацемку ў „Шл. Мол.“ аб палажэньні нашага літаратурнага маладняка на вёсцы чырвонай лініяй праходзіць скарга на:

1. поўную культурную адарванасьць літаратаў - маладнякоўцаў ад скарбаў беларускай і сусьветнай літаратуры і 2. амаль што няпоўная адсутнасьць якойколечы сувязі між паасобнымі літаратамі - маладнякоўцамі, а г. зн. і немагчымасьць падзяліцца між сабой у шыршай скупені хвалюючымі нас думкамі й справамі.

Абставіны складаюцца гэтак, што ў сёньняшні час ёсьць немагчымасьцю стварэньне па прыкладу іншых народаў у нас свайго літаратурнага згрупаваньня, проф. саюзу, але гэта ня значыць, што літ. маладняк павінен хадзіць самапас — адзінкамі, ня ведаючы нічога аб сваім сябры-пражываючым у суседняй воласьці, у сумежным павеце. Наадварот, як найшырэйшыя сяброўскія зносіны між сабой, асабістыя стыкі, лістоўныя — дадуць ня мала карысьці.

Дык пазнавайма адзін аднаго! Памагайма радаю! — Дзелімся думкаю! Уласьне толькі тады, як мы зможам дабіцца гэтага, зможам дабіцца й другога, г. зн. супольнымі сілямі ліквідаваць нашую культурную адсталасьць, адарванасьць. У двох,-трох заўсёды пягчэй выпісаць і цікавячую нас кніжку ў складчыну й часапіс.

А без далейшага вучэньня, бяз веданьня нашых і чужых клясыкаў, без знаёмства з літаратурнымі цёкамі ў сучаснасьці, не гаворачы ўжо аб апанаваньні тэхнікі пісаньня, наш вясковы маладняк ніколі паза „пачынаючага“ ня выйдзе.

Кожны з літаратаў-маладнякоўцаў мусіць чытаць беларускую літаратурную прэсу, а таксама і літ. прэсу суседніх народаў. А гэта можам даканаць толькі ў складчыну, групамі па некалькі асоб.

Тут падаю адрасы літаратурных часапісаў, якія кожны літарат.-маладн. мусіць мець:

1. „Шлях Моладзі“, Wilno, Zawalna 1—2.

2. „Калосьсе“, 2 зл. у год, Wilno, Zawalna 1—2.

3. „Беларускі Летапіс“, Wilno, Królewska 3—8.

## Biełaruskaja chronika

**Biełaruskaja Pilihrymka ŭ Kalvaryju,** jak my pisali, ładzicca u niadzielu 4 červienia. Pilihrymka vyjdzie z Vilni, z kaścioła šv. Mikałaja, ranicaj paśla nabaženstva, katoraje adbudziecca a hadz. 7-maj Usim učaśnikam biełaruskaje pilihrymki z vioski budzie pryhatavanaje biaspłatnaje pamieškańnie na načleh. Zborny punkt u Redakcyi „Chryścijanskaje Dumki“—Vilnia, Zavalnaja 1. Usie, kamu blizkaja biełaruskaja relihijnaja sprava, pavinny staracca, kab u Biełaruskaj Pilihrymcy brała ŭčaście jak najbolš ludziej i kab adbyłasia jana ŭ najlepšym paradku. Taja biel. sialanskaja moładź, jakaja maje rovary, pavinna ich vykarystać dziela pryb,ćcia ŭ Vilniu j udziełu ŭ Biel. Pilihrymcy. Aprača taho, možna j treba naładžyvać tannyja padarožy ŭ Vilniu ciahnikami. Jak atrymać źnižku dla pilihrymaŭ u ciahnikoch, dajuć infarmacyi ŭsie čyhunačnyja stancyi, a taksama budzie ab hetym infarmacyja ŭ „Chryśc. Dumcy“.

**Da spravy Vil. Biełaruskaj Himnazii.** U suviazi z roznymi tryvožnymi viestkami ab Biełaruskaj Himnazii, Baćkaŭski Kamitet hetaje škoły pasłaŭ delehacyju da Kuratara Vil. Školnaha Vokruhu dziela vyjaśnieńnia spravy Himnazii. Kuratar zajaviŭ delehacyi, što dyrekcyja Vil. Biełaruskaj Himnazii moža prymać padańni kandydataŭ u pieršuju klasu hetaj škoły. Ab likvidacyi himnazii pastanovy jšče niama. U hetaj spravie j u spravie adkryćcia Liceju pry Vil. Biel. Himnazii Baćkaŭski K-t vysyłaje delehacyju ŭ Varšavu da Ministra Aśviety.

**Udaskanalvańnie biel nar. instrumentaŭ.** U BSSR prystupili da cikavaj raboty dziela ŭdaskanaleńnia j rekanstrukcyi biełaruskich narodnych instrumentaŭ. Meta rekanstrukcyi zaklučajecca ŭ tym, kab, zachavaŭšy koloryt biel. narodn. instrumentu, zrabić jaho technična bolš daskanalnym i hučnym. Biełaruskaja dudka, napr., budzie mieć paśla rekanstrukcyi čatyry raźmiery: pikolo, soprana, alt i tenar. Ton jaje hučańnia budzie ŭ arkiestry nabližany da flejty. Padobnaje stvarajecca j u narodn. instrumencie— žalejcy.

---

Апрача таго абавязкава трэ' мець з пару польскіх дэмакратычных літаратурных часапісаў, якія маюць магчымасьць даваць больш месца фаховым літарат. пытаньням. *Сяргей Хмара*



**Cikavyja raskopki.** U Dzieviatnickaj vołaści, Słonimskaha pav., pry karčavańni lesu prypadkova vykapany 3 kamiennyja małatki z časoŭ poznaha neolitu (kala troch tysiač hadoŭ tamu). U Vilni, u časie raskopkaŭ na Bekišavaj hary viedzienych Archeolohičnym Muzejam Vilenskaha Universytetu, natrapili na abaronnyja asieliščy, viedamyja z chronikaŭ, „Kryvoha Horadu“ (z XIV st.), razvalenyja ŭ 1390 h. navałaj Kryžanoscaŭ pad kiraŭnictvam Kanrada Valenroda. Prytym adkapany astatki troch chataŭ. Niekatoryja dapuščajuć, što raskopki na Bekišavaj hary daduć novyja viestki ab paŭstańni Vilni, jakija buduć siahać za časy Gedymina (1315—1341 h.).

**2690 uhodki zakładzinaŭ Rymu.** U krasaviku miesiacy sioleta Italjancy uračysta śviatkavali 2690 uhodki zakładzinaŭ miesta Rymu.

**25,000 bekonaŭ.** Anhlijskija kupcy miasa zakupili ad kupcoŭ Vilenskaha j Navahradzkaha vajavodztvaŭ 25,000 bekonaŭ (dobra kormlenych śviniej). Pakul što adnak možna im vysłać tolki 10—15 tysiač bekonaŭ, bo bolš nia chopić.

**Najbolš hłybokaje miesca Atlantyckaha akijanu.** Hidrahrafičnaje biuro ministerstva amerykanskaje floty abvieściła, što ŭ časie pamieraŭ hłybini na Karaibskim mory natrapili na najbolš hłybokaje miesca Atlantyckaha akijanu. Na 16 mili na poŭnač ad Karaibskaha vostrava Hispaniola śćvierdžana hłybinia 9560 metraŭ (9 klm. i 560 metraŭ).

**Jak šukajuć naftu.** Adna z nafcianych firmaŭ u Kalifornii (Ameryka) ŭ praciahu 285 dnioŭ vyviarciela (vykrucila) ŭ ziamli dziru hłybini 4. 673 metry, šukajučy novych žarołaŭ nafty. Temperatura na dnie henaje dziury była 130 hr. C. — U našym krai nia tolki hetkich, ale navat padobnych dziraŭ u ziamli nichto dasiul nie rabiŭ i dziela taho nia dziva, kali my dobra nia znajem, jakija majem bahaćci. —Najhłybiejšaj kapalniaj śvietu ŭvažajuć ciapier šyb adnaje metalovaje firmy ŭ Paŭdzionnaj Afrycy, dzie rabotniki pracujuć na hłybini 2,600 metraŭ.

**Nehry mohuć bialeć.** Amerykanski lekar dr. Bertrand vynajšoŭ taki lek, ad jakoha čornaja skura Nehraŭ moža stacca zusim biełaj. Lek hety robiać z adnaje brazylijskaje raśliny. I tak, kali Nehr zachoča być biełym, dyk staniecca takim, jak tolki vypje lekarstva dr. Bertranda. Ale Nehry kažuć, što čornaja skura pryhažejšaja ad biełaj i tamu prapanavanaha im leku nia ŭžyvajuć. Heta-ž paćviardžaje fakt, što ŭsio, što jość pryrodnym čałavieku, źjaŭlajecca dla jaho najlepšym, najpryhažejšym i najdaražejšym. Čužyja ŭpłyvy, prymiety niasuć śmierć usiamu rodnamu.

**Samachody zabili 2490 asob.** U Italii ŭ 1938 hodzie ŭ samachadovych katastrofach zhinuła 2490 asob i 35,880 raniena. U 1937 h. tam-ža ŭ časie samachadovych katastrofaŭ zhinuła 2,708 asob i 40,357 raniena.

**Tokijo maje 6,830,523 žycharoŭ.** Pavodle najnaviejšych padličeńniaŭ, stalica Japonii m. Tokijo maje ciapier 6,830,523 žycharoŭ.



# Pałažeńnie ŭ Eŭropie dalej napružanaje

## Pramova Hitlera j jahonyja prapanovy

Ustryvožany śviet mabilizacyjami armijaŭ z vialikim zacikaŭleńniem čakaŭ adkazu niamieckaha kanclera Hitlera na telehrafičny zaklik prezydenta Ruzvelta da miru j vyrašeńnia spornych spraŭ na mižnarodnaj kanferencyi. Adkazaŭ Hitler 28 krasavika vialikaj palityčnaj pramovaj u niamieckim parlamencie, u jakoj miž inšym zajaviŭ:

Ad pačatku majej palityčnaj pracy imknusia da poŭnaj svabody niamieckaha narodu. Nikoli nia imknuŭsia da vyrašeńnia z inšymi dziaržavami spornych spraŭ vajnoj i chaču raźviazvać spornyja spravy mirnym sposabam. Nie pasiahnu pa tyja ziemli, jakija nikoli da Niamieččyny nie naležyli.

Śviet padzieleny na panujučych i paduładnych. Hranicy dziaržaŭ jość niespraviadlivyja. Ad Niamieččyny adabrany zamorskija kalonii. Niamieččyna Francyi nie baicca. Niekalki hadoŭ tamu zapeŭniaŭ, što da Francyi nia maju nijakaj terytoryjalnaj pretensii — ciapier hetaha zapeŭnić nie mahu. Ciapier treba zavieści novy paradak, paradak sapraŭdy spraviadlivy.

Aŭstryja złučana z Niamieččynaj, bo Aŭstryja — heta niamiecki kraj. U Čechach jość całyja asieliščy niamieckaha nasielnictva, hety kraj naležyć da haspadarčaha vokruhu Niamieččyny, a kulturu Čecham stvaryli Niemcy. Dziela hetaha Čechi pryłučany da Niamieččyny.

Hdansk jość niamiecki i choča naležać da Niamieččyny. Jak Polšč patrabuje mieć dostup da mora, tak Niamieččyna musić mieć dostup da Uschodniaj Prusii. Hetaja prablema musić być vyrašana mirnym sposabam.

Dziela hetaha — kazaŭ Hitler — źviarnuŭsia da Polščy z prapazycyjaj: 1) kab niamiecki Hdansk, zhodna z volaj jaho nasielnictva, byŭ pryłučany da Niamieččyny; 2) kab Polšč zhadziłasia na praviadzieńnie Niamieččynaj praz kalidor aŭtostrady j eksterytoryjalnaj čyhunki. (Dla aŭtostrady henaje, pavodle hazet, Niemcy chočuć mieć svabodnuju pałasu praz Pamorje šyrynioju da 25-ci kilametraŭ). Za heta Niamieččyna akančalna hvarantavała-b hranicy Polščy j zakłučyła-b na 25 hadoŭ pakt nieahresii, adnačasna Polšč, Niamieččyna j Vuhryja zabiaśpiečyli-b niezaležnaść Słavakii. Polšč nie zhadziłasia na heta j zakłučyła dahavor z Anhlijaj. Dahavor hety — ŭvažaje Hitler za adnastaronnaje sarvańnie Polščaj paktu nieahresii z Niamieččynaj z 1934 h. i jon jaho tak-ža zryvaje. Nia vykłučaje heta — kazaŭ Hitler, — kab nia možna było du mać ab novym parazumleńni Polščy z Niamieččynaj.

Adnosna Anhlii Hitler skazaŭ: Niamieččyna dakanała źmieny ŭ Eŭropie biez vajny. Anhlija čamuści ŭvažała patrebnym hvarantavać mnohim dziaržavam niezaležnaść. Heta robicca dziela akružeńnia Niamieččyny, a nia dziela zabieśpiačeńnia miru. U takich abstavinach marski dahavor anhielska-niamiecki z 1935 h., jaki maje na mecie zabieśpiačeńnie miru, staŭsia fikcyjaj. Dziela hetaha — zajaviŭ Hitler — zryvaju jaho.

Na prapazycyju Ruzvelta Hitler adkazaŭ iranična, adznačajučy, što Niamieččyna biez aružža na nijakuju mižnarodnuju kanferencyju nia pojdzie.

Cikava adznačyć, što Hitler u hetaj svajej vialikaj pramovie, jakoj zakranuŭ spravy mižnarodnaha značeńnia nia tolki Eŭropy, ale amal całaha śvietu, ab SSSR navat nia ŭspomniŭ, na što ŭsie źviarnuli ŭvahu.

Prad vystupleńniem Hitlera, 28 krasavika niamiecki ŭrad uručyŭ polskamu ŭradu prapanovu nanava dahavarycca, adnak-ža robić zaściarohu, kab dahavor byŭ vyraznym i zabaviazvaŭ abiedźvie starony.

Adnačasna niamiecki ŭrad uručyŭ prapazycyju j anhielskamu ŭradu, dakazvajučy patrebu nanava dahavarycca ŭ spravie miru j zbrajeńnia na mory.

## Pramova min. Beka j adkaz polskaha ŭradu

Na prapanovy Hitlera adkazaŭ 5 h. m. z boku polskaha min. Bek pramovaj u Sojmie j aficyjalnym memorandum niamieckamu ŭradu. Min. Bek zajaviŭ, što Polšč nia moža pryniać prapanovaŭ Hitlera j nia dasca adsunuć ad Bałtyckaha mora. Z pryčyny zarvańnia niamiecka-polskaha dahavoru ab nienapadańni žałoby nasić nia budzie. Supakoj, mir—kazaŭ min. Bek—jość natužanaj pracaj polskich dyplomataŭ. Dziela taho Polšč hatova viaści pierahavory z Niamieččynaj u spravie Hdansku j u dahadnieńniaŭ kamunikacyi praz Pamorje, pry tym musili-b adnak być zachavanyja mirnyja namiery j mirnaje pastupańnie. „Mir — kančajučy svaju movu kazaŭ Bek — jość rečaj cennaj. Mir maje svaju vysokuju canu, ale vymieranuju. My ŭ Polščy nia znajem paniaćcia miru za ŭsiakuju canu.“

## Stanovišča Francyi, Anhlii j Ameryki

4 h. m. pierad pramovaj min. Beka premjer Francyi Daladje i premjer Anhlii Čemberlen abvieścili deklaracyi, što Francyja j Anhlija datrymajuć svaich zabaviazańniaŭ adnosna pomačy Polščy, kali-b jana pryznała, što jość zahrožanaj.

Prezydent Ruzvelt, jak padajuć hazety, nia budzie spračacca z kancleram Hitleram. Za toje ŭrad Zł. Št. Paŭn. Ameryki budzie staracca, kab parlament pierahledziŭ pastanovu ab neutralnaści Zł. Št. Ameryki na vypadak vajny j kab urad mieŭ jak najbolšuju svabodu dziejańnia.

## Niamiecka-italjanskija narady

Paśla pramovy Hitlera, praz uvieś čas da apošnich dzion u Italii viaducca niamiecka-italjanskija narady hałoŭnych kamandzieraŭ niamieckaje j italjanskaje armii. Na narady hetyja z Niamieččyny vyjechali jašče marš. Geryng i min. Ribbentrop. Niekatoryja hazety pišuć, što byccam psujucca adnosiny Italii z Niamieččynaj.

Usie hetyja pramovy, deklaracyi, narady j pajezdki śviedčać, što pałažeńnie ŭ Eŭropie dalej vielmi napružanaje.

* * *

*Устаньце, працоўныя рацi.*
*Пойдзем вясну спатыкаць!*
*Дружна мы будзем араці,*
*З песьняй зярняты кідаць.*

*Нівы абсохлі — чакаюць,*
*Час ужо рушыць з сяўнёй.*
*Жаўрукі ў небе сьпяваюць,*
*Пахнець мядовай лазой.*

*Праўце стальныя нарогі,*
*Досыць на лёс наракаць.*
*Шчасьця ня прыдзе з дарогі,*
*Трэба яго здабываць.*

*Рана з сяўнёй выйдзем у поле,*
*Родны засеім загон,*
*З коласам вырасьце доля,*
*Песьня-ж пальецца, як звон.*

*Ну, дык хутчэй на палосы.*
*Радасьць бярыце ў запас,*
*Хоць яшчэ зімныя росы, —*
*Рушым! У добры-жа час!*

*Мікалай Базылюк*

## ШТО ЧУВАЦЬ

— **Марш. Рыдз-Сьміглы запрасіў у Польшч галоўнага камандзіра літоўскае арміі ген. Раштікіса,** які прыедзе ў Варшаву 8 г. м. Візыта гэта набірае асаблівага значэньня з увагі на цяперашняе палажэньне й адносіны да Нямеччыны.

— **Румынскі** міністр заграмічных спраў Гафэнку канчае ўжо сваю трохтыднёвую падарожу па сталіцах Эўропы. Быў ён у **Польшчы, Нямеччыне, Бельгіі, Англіі, Францыі, Італіі і Югаславіі.** Найлепшы вынік мусіць меў у Англіі і Францыі, бо Англія абяцала даць пазыку, а з Францыяй расшырыў гандлёвы дагавор.

— 3 г. м. **падаўся ў адстаўку доўгагодні камісар заграмічных спраў СССР Літвінаў.** Яго месца заняў камісар Молатаў. Зьмена гэта выклікала розныя дагадкі. Некаторыя думаюць, што можа наступіць зьмена заграмічнае савецкае палітыкі й зблізжэньне савецка-нямецкае. Ангельская-ж прэса падае, што пайсьці ў адстаўку прымусіла Літвінава дамаганьне савецкае арміі, каторая жадае, каб быў як найхутчэй падпісаны ангельска-савецкі дагавор, накіраваны супроць Нямеччыны, да чаго не сьпяшаўся Літвінаў.

— У **Югаславіі** пасьля доўгіх перагавораў між др. Мачкам—павадыром Харватаў — і прэм'ерам Цвэтковічам — Сэрбам, быў устаноўлены дагавор паразумленьня, на аснове каторага адсуваныя дасюль ад улады Харваты мелі-б атрымаць аўтаномію. Аднак дагавору гэтага не зацьвердзіў рэгент (заступнік караля) Павал. Пасьля гэтага маюць адбывацца нанава народы дзеля асягненьня згоды.

— **Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Галяндыя, Швэцыя і Норвэгія** атрымалі ад Нямеччыны прапанову падпісаць дагавор аб ненападаньні. Галяндыя, быццам, прапанову нямецкую адкінула, а Латвія й Эстонія прынялі. Адносіны іншых названых тут дзяржаў дасюль няведамы.

— У **Англіі** ўведзены агульны прымусовы абавязак вайсковае службы. Дагэтуль там армія складалася з ахвотнікаў. Паводле новага закону пакліканы будуць на вайсковыя цьвічэньні мужчыны ў веку 20 і 21 году. Агулам будуць пакліканы каля мільёна асоб.






### Ёсьць Беларусы ці няма?

**в. Мялешкі, вол. Гарадок каля Беластоку.** У аднаго заможнага гаспадара нашае вёскі было нядаўна вясельле, на якое запрасілі й вучыцеля мясцовае польскае пачаткавае школы. Як толькі госьці падпілі, пачалася зараз дыскусія й выплыла справа беларуская. Вучыцель зараз-жа заявіў, што Беларусаў ня было, няма й ня будзе. Сяляне, як маглі, даказвалі, што гэта шовінізм яго асьляпіў і ён ня бачыць, што Беларусы былі, ёсьць і будуць. Вучыцель аднак трымаўся свайго. Тады сяляне выскачылі й кажуць: „Давай, мы пачысьцім яму зубы, каб ведаў, што Беларусы ёсьць і ніколі не казаў, што Беларусаў няма!" Але дзякуючы гаспадару, у якога было вясельле, да бойкі не дайшло.

Абразок гэты падаю толькі дзеля яго асаблівага характару. А цяпер хачу зьвярнуць увагу на іншую справу, а іменна: Усе мы, асабліва ў цяперашні трывожны час, любім чытаць газэты, нажаль ня ўсе стараемся акуратна аплачваць падпіску. Тымчасам без падпіскі ня можа нармальна існаваць і разьвівацца нашая прэса. Калі-ж ёсьць Беларусы, мусіць быць і разьвівацца беларуская прэса, беларускія часапісы. З гэтага-ж выплывае абавязак, што кожны Беларус павінен падтрымліваць сваю беларускую прэсу, плаціць акуратна падпіску й старацца, каб беларускія часапісы расходзіліся як найшырэй. — Дык, грамадзяне, памятайма аб сваіх беларускіх абавязках.

Л. Гарт

### Гарэлка наш вораг!

**в. Траскуны, Дзісьненскага пав.** Моладзь нашай ваколіцы жыве ў цемры, ня мае сваіх арганізацыяў, а якія тут ёсьць — дык выключна польскія, а да іх моладзь ня горнецца й дзеля таго хутка яны ліквідуюцца. Тутэйшая мяйсцовая коопэратыва „Едносьць," у Панізаве, замест вясьці культурную працу, залажыла манапольку, куды кінуліся нашы хлапцы, як у вір шчасьця, і апынуліся ў руках скрытага ворага, што цягне да сябе й хоча ўтапіць, атруціць маладое жыцьцё. Пара ўжо нам зразумець, якія шкоды прыносіць алькаголь; ня можна гэтаму ворагу паддавацца, бо ён зьнішчае рады нашага маладняку. Часта некаторыя піцьцё гарэлкі ўважаюць за „гонар," але яны мыляюцца. Чытаць кніжку ці газэту — гэта сто разоў большы гонар і трэба гэта ўсім ведаць. Цяжка запрацаваныя крывавым мазалём грошы лепш аддаваць на газэты й кніжкі, бо яны вядуць нас да шчасьлівейшага жыцьця й сьвятла.

Кожны павінен узяцца за самаадукацыю й саматужным спосабам вучыцца беларускай граматы.

Каб мець здаровы розум,
Ты жыві цьвярозым.
Каб мець лепшую долю,
Ня пі больш алькаголю!

Г. Д.

### *Паштовая скрынка*

**А. Су—ку:** Новыя вершы атрымалі. Патрабуюць паправак. Відаць за шмат пасьпяшыліся. У меру магчымасьці будзем друкаваць. За добрыя словы шчырая падзяка.

**Anicie:** Apaviadańnie „Pavarot" atrymali, dziakujem, ale jašče nie zmahli pračytać. Adkaz damo pašla. Pryvitańnie.

**Łapuš. Nikanoru.** Dziakujem za padpisku. Zhadžajemsia, što słušna vam naležacca №№ 1, 2, i 3 „Šl. Mol.", ale nažal nia možam ich vam vysłać, bo ŭvieś ichni nakład razyjšoŭsia. Rożnicu ŭ płacie zaličym vam na budučy čas.

**Jakim. Symanu.** Atrymali dziakujem i ŭsio što treba vysyłajem.

**V. Niŭku j Paŭluku K.** Vieršy słabyja j da druku nie padchodziać. Prosim pisać karespandencyi.

**P. Stankieviču:** Adkaz vysłany piśmom.

**Г. Д.:** Верш слабенькі й да друку не падходзіць. Карэспандэнцыю ахвотна друкуем. Просім пісаць часьцей.

**І. Роліку:** З платай за „Шлях Мол." пачакаем, а кніжку В. Сазанскага вышлем тады, як прышлеце належнасьць за яе.

**А. Гацуры:** П'есу „Разумны Кастусь" атрымалі, аднак не пасьпелі яшчэ разгледзіць. Ацэну вышлем пісьмом, або дамо ў наступным нумары „Шляху Мол."

**Uvaha! Uvaha!**

**Dasiul mnohija z našych čytačoŭ nie apłacili jašče padpiski na 1939 h., dziela taho ŭsich vietliva prosim zrabić heta jak najchutčej, bo ŭ praciŭnym vypadku dalejšaja vysyłka „Šlachu Moładzi" budzie im nieadkładna ustrymana.**

**Pamiž akuratnymi padpiščykami buduć razlasavany cennyja premii.**

*Administracyja „Šlachu Moładzi"*

*„Шлях Моладзі" друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар кантатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Wydawca: „Bielpres". Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.